№ 15 (225)
17 – 23 красавіка 2002 г.
Заснавана ў ліпені 1997 г.

http://kapp.nsys.by

# рабочы

ШТОТЫДНЁВАЯ МАСАВА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА



# "Беларусі – жыць!"

**10 красавіка ў Мінскі гарвыканкам была пададзена заяўка на правядзенне традыцыйнага шэсця "Чарнобыльскі Шлях".**

Адпаведны зварот падпісалі больш за 200 чалавек: прадстаўнікі апазіцыйных партый, грамадскія лідэры, ліквідатары Чарнобыльскай катастрофы, навукоўцы, журналісты, дзеячы культуры. У заяўцы змешчана просьба да ўладаў даць дазвол на правядзенне шэсця і малебну з нагоды 16-й гадавіны Чарнобыльскай трагедыі. Лозунгамі згаданага мерапрыемства стануць: "За Беларусь – дзеля будучыні!", "Беларусі – жыць!", "Усе разам – супраць Чарнобыльскай бяды".

Месцам збору выбрана плошча Я.Коласа (з 17.30 да 18.30). Потым, як мяркуецца, удзельнікі пройдуць па праспекце Ф. Скарыны і вуліцы Леніна да пляцу Свабоды. Там з 19.00 да 20.00 адбудзецца гадзіна смутку і малебен. У гэты ж час дэлегацыя ад удзельнікаў шэсця перадасць у Дом урада петыцыю па праблемах Чарнобыля, а таксама ўскладзе кветкі да Звана Чарнобыля на пляцы Незалежнасці.

Падчас падрыхтоўкі да акцыі збіраюцца подпісы пад зваротам да беларускага народа, у якім нацыянальны аргкамітэт "Чарнобыльскага Шляху" патрабуе ад ураду вырашэння чарнобыльскіх праблем. *"Пры Лукашэнку была зменена агульная канцэпцыя ўладаў у падыходзе да развязання чарнобыльскай праблемы,* — заявіў старшыня БНФ Вінцук Вячорка. – *Канцэпцыя ўладаў – гэта згода і заахвочванне людзей да таго, каб тыя жылі на забруджаных тэрыторыях. І тое, што прапанаваў падчас свайго прыезду ў Беларусь намеснік Генеральнага сакратара ААН Кензо Осіма – гэта фактычная падтрымка лукашэнкаўскага падыходу. У такім выпадку мы будзем мець у Беларусі жывы эксперымент над тысячамі людзей".*

26 красавіка
17:30
Дзеля будучыні
Плошча Якуба Коласа
ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ

## 1:0 на карысць журналстаў


Фота IREX/ProMedia.

9 красавіка не адбыўся запланаваны ў Гродне суд над рэдактарам і журналістам забароненай газеты "Пагоня" Міколам Маркевічам і Паўлам Мажэйкам: захварэў суддзя Мікалай Сяргейка, што павінен быў весці працэс.

Працэс адкладзены пакуль на няпэўны тэрмін, бо новаму суддзі спатрэбіцца час, каб азнаёміцца з матэрыяламі справы. Нагадаем, што "пагонеўцаў" абвінавачваюць па ўжо стаўшым скандальным артыкуле 367 Крымінальнага кодэкса ("Паклёп у дачыненні да прэзідэнта"). Менавіта так улады расцанілі крытычныя матэрыялы ў свой адрас у апазіцыйнай газеце.

Цікава, што пра хваробу суддзі сакратарка Ленінскага раённага суда абвясціла ў самы апошні момант, калі павінна ўжо было пачынацца судовае паседжанне. У перапоўненай зале суда не хапіла месцаў для ўсіх тых, хто прыйшоў падтрымаць журналістаў, таму прысутным давялося стаяць. "Героі дня" з'явіліся ў суд у адмысловых майках з надпісам: ***"Я – журналіст, а не злачынца!".***

Судом над "пагонеўцамі" ўлады разлічвалі запалохаць непадкантрольных ім журналістаў. Відавочна, што Гродна зараз стала "палігонам", дзе рэжым адпрацоўвае расправу над непадкантрольнай яму прэсай. Як мы ўжо паведамлялі, напярэдадні суда 13 гродзенскіх журналістаў выйшлі з пікетамі пратэсту супраць палітычнага пераследу Маркевіча і Мажэйкі. Шэсць з іх былі кінутыя за краты на тэрміны ад 3 да 10 сутак. Але, робячы стаўку на сілу і запалохванне, рэжым атрымаў супрацьлеглы эфект. На прызначаны суд прыехала вялікая колькасць не толькі прадстаўнікоў беларускіх, але і замежных СМІ.

Журналісты выйгралі маральную перамогу.

15 красавіка была распаўсюджана заява прэс-сакратара прэзідэнта Чэшскай Рэспублікі Ладзіслава Шпачэка, які паведаміў пра пазіцыю Вацлава Гавэла ў сувязі з распачатай крымінальнай справай супраць Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі. ***"Прэзідэнт Гавэл заклікае да неадкладнага заканчэння крымінальнага пераследу абодвух журналістаў і іншых пакараных асобаў і спынення далейшых парушэнняў правоў чалавека на Беларусі. Гэтым ён выказвае, як і шмат разоў да гэтага, сваю салідарнасць з тымі, хто імкнецца да дэмакратызацыі аўтарытарнага рэжыму Аляксандра Лукашэнкі»,*** — падкрэсліваецца ў лісце.



## ТУРМА І ВОЛЯ

### АНЕКДОТЫ НАШЫХ ДЗЁН

Днямі СМІ абвясцілі, што у Гродне намесніку старшыні БНФ прафесару Юрыю Хадыку прысудзілі дзесяць сутак за ўдзел у святкаванні Дня Волі і ён, прама ў зале суда абвясціў галадоўку. Тым нечаканей была наша нядаўняя сустрэча з Юрыем Віктаравічам – прафесар быў зусім не ў "лагерным кліфту" і без прыкмет галадання ў знешнасці.

Журналісты нешта наблыталі? Не. І суд быў, і заява аб галаданні таксама. Але далей пачаліся падзеі, да якіх сам прафесар Хадыка ставіцца ці-то як да нейкага дзіва, ці-то як да сумнага анекдота.

— *Адразу пасля заканчэння судовага пасяджэння я не змог знайсці міліцэйскага нараду, які павінен быў даставіць мяне ў прыёмнік-размеркавальнік. Суддзя, падумаўшы крышку, сказаў, што я магу ехаць у Мінск, а ён перашле туды маю справу. Уважліва прачытаўшы судовую пастанову, я звярнуў увагу на двухсэнсоўнасць некаторых фармулёвак. Напрыклад, там напісана: "арышт на дзесяць сутак з моманту затрымання". З якого затрымання – незразумела. Таго, што было на Дзень Волі? Ці авансам, з нейкага будучага?*

Так у разгубленасці "праваапарушальнік" Хадыка (дарэчы, доктар фізіка-матэматычных навук, вядомы навуковец, які шмат зрабіў у свой час для ўмацавання абараназдольнасці Савецкага Саюза, ды і зараз плённа працуе ў Нацыянальнай акадэміі навук) застаецца дагэтуль. Дададзім, што увесь яго грэх – выступ на мітынгу. Падчас працэсу сведка-міліцыянт прагаварыўся, што такая ў іх была задача ў той дзень: "узяць" усіх прамоўцаў.

**Якаў КІСЯЛЁЎ.**

## АД СЕРАДЫ ДА СЕРАДЫ

### УЗНАГАРОДА

**Пісьменнікі Аляксей Дудараў і Іван Шамякін сталі лаўрэатамі прэміі Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Пастанову аб ўзнагародзе прынялі ў пятніцу сябры Вышэйшага савета Саюзнай дзяржавы.**

### РЭКАНСТРУКЦЫЯ

**З прычыны адсутнасці сродкаў прыпынена рэканструкцыя могільніка радыеактыўных адходаў пад Мінскам (паселішча Сосны), якая пачалася ў 1997 годзе. Гэты могільнік – адзіны на сёння ў Беларусі дзейсны пункт перапрацоўкі і захавання радыеактыўных адходаў. Усяго на тэрыторыі краіны знаходзіцца каля 80 месцаў па захаванню радыеактыўных рэчываў.**

### ДАМОВА

**Стратэгію сумеснай працы з Беларуссю зацвердзіла бюро Сусветнага банка ў Вашынгтоне. Стратэгія вызначае агульны аб'ём пазык, якія можа атрымаць наша краіна ў 2002 – 2004гг., у памеры 140 млн. долараў.**

### ПАДАРАЖАННІ

**На 25% болей давядзецца нам плаціць за святло. Цяпер кілават-гадзіна электраэнергіі ў дамах з газавымі плітамі каштуе 30, а з электраплітамі – 21,8 руб. Адначасова праіндэксаваны камунальныя тарыфы, у красавіку ацяпленне, ліфты, гарачая вада і вываз смецця падаражэлі на 4%.**

* * *

**На 2,5% падаражэла гарэлка, з пачатку года яе кошт узрос на 10%.**

### АКЦЫІ

**Расійскі бровар «Балтыка» мае намер пачаць дэмантаж абсталявання, дастаўленага мінскай «Крыніцы», — заявіў віцэ-прэзідэнт расійскай кампаніі Адам Тлехурай. Рэалізацыя праекта, у які «Балтыка» ўклала 10,5 млн. долараў, прыпыненая з прычыны нязгоды беларускага боку праводзіць дадатковую эмісію акцый «Крыніцы». Паводле папярэдняй дамовы, перадача кантрольнага пакета акцый «Крыніцы» павінна была адбыцца ў снежні 2001 года. Аднак да гэтага часу кіраўніцтва «Балтыкі» не атрымала ніякіх аргументаў аб тым, чаму гэта не было зроблена.**

### ТЭАТР

**70 гадоў з дня адкрыцця Трэцяга Беларускага дзяржаўнага тэатра споўнілася 15 сакавіка. Тэатр заснаваны ў 1932 г. у Гомелі вандроўнай трупай пад кіраўніцтвам першага народнага артыста Беларусі Уладзіслава Галубка. Сталая база тэатра месцілася ў Гомелі. БДТ-3 спыніў сваю дзейнасць у 1937 годзе.**

### ХАБАР

**Па падазрэнню ў атрыманні хабару затрымалі адміністратарку сталічнага рынка «Аквабел». Міліцыя падазрае яе ў атрыманні хабару ў памеры 3 млн. руб. са жніўня мінулага года да гэтага часу. У затрыманай узята падпіска аб нявыездзе.**

**МОЙ ТЫДЗЕНЬ**

Доведенные до отчаяния работницы прядильной фабрики предприятия РУП «Гроднотекстиль» 3 апреля начали забастовку. Причина – задержка с выплатами второй части январской заработной платы. 8 апреля администрация все долги вернула. О февральской речи не идет.




## ЯКІМ БУДЗЕ НАРОДНЫ МЕМАРЫЯЛ?

***АБМЯРКОЎВАЕМ ПРАЕКТ***

...Лічу, што не трэба абвяшчаць конкурс на стварэнне мэмарыяла ў Курапатах. Гэта шлях у нікуды. Я глыбока ўпэўнены, ужо маючы горкі вопыт правядзення гэтых конкурсаў. Трэба менавіта з маладых творцаў з новым мастацкім мысленнем стварыць рабочую групу, выпрацаваць канцэпцыю, а яна, гэтая канцэпцыя, ужо лунае ў паветры, яна патрабуе толькі мастацкага ўвасаблення. Калі гэта будзе прынята, не трэба ніякіх конкурсаў.

Другая справа – менавіта шырокае абмеркаванне з удзелам прадстаўнікоў розных канфесій, грамадскасці, інтэлігенцыі, навукоўцаў, гісторыкаў. Вось гэта – шлях, які можна рэалізаваць.

Што такое Курапаты? Гэта могілкі бязвінна загінуўшых і невядомых людзей. Што такое могілкі ў разуменні народа? Гэта месца пахавання, якое мае агароджу, капліцу і браму. Хацелася б, каб не паўтарылася тое, што ўжо было, каб мы сапраўды ўвекавечылі памяць. А зрабіць гэта могуць толькі маладыя, таленавітыя скульптары і архітэктары – той жа Валяр'ян Янушкевіч, які ўжо працаваў і ўжо адчуў гэтую тэму. У нас ёсць Аляксандр Дранец, Павел Лук. Я магу назваць шмат таленавітых людзей, што маглі б удзельнічаць у стварэнні такога мэмарыяла, якія маюць і мастацкую падрыхтоўку, і талент, і сучаснае мысленне. І гэта людзі, якія сапраўды любяць сваю Радзіму, сапраўдныя патрыёты.

Неабходна, каб усе творчыя людзі, якіх хвалюе лёс нацыянальнага некропалю, забыліся пра ўласныя амбіцыі і супольна прыклалі ўсе намаганні, каб нарэшце ў Курапатах быў зроблены сапраўдны мэмарыял.

**Васіль Шаранговіч, народны мастак Беларусі, старшыня журы конкурса па стварэнню мэмарыяла ў Курапатах на пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя (па матэрыялах інтэрв'ю Радыё "Свабода").**

# Мы павінны падаць сур'ёзны голас



**8 красавіка старшыня прафкама Мінскай абласной арганізацыі прафсаюза работнікаў культуры У.А. Мамонька выступіў з прапановай склікаць у маі гэтага года <u>Першы Мінскі гарадскі і абласны прафсаюзны сход "За гарантаваную працу і дастойны заробак!"</u>. Адпаведны зварот Уладзімір Адамавіч накіраваў пярвічкам, райкамам, гаркамам прафсаюзаў устаноў інфармацыі, спорту і турызму, культуры. Зварот атрымалі і журналісты. Каменціруе ініцыятыву прафсаюзны лідэр Уладзімір МАМОНЬКА.**

— Ідэя наконт правядзення Першага схода зыходзіць не столькі ад мяне, колькі ад саміх работнікаў культуры. Апошнія чатыры месяцы я вельмі часта бываю ў працоўных калектывах на прафсаюзных сходах, размаўляю з людзьмі. Абавязкова высвятляю, што за настрой, якія адносіны да прафсаюза. Людзі з болем гавораць пра сваё няпростае жыццё. Іх вельмі хвалюе і заўтрашні дзень: што з імі будзе? Разам шукаем адказы на гэтае і іншыя пытанні. Трэба шчыра сказаць, што ёсць і тыя, хто не бачыць ніякага выйсця з цяжкага становішча, таму, напрыклад, прапануюць у сваёй установе наогул разагнаць прафсаюз. Такі настрой панаваў сярод настаўнікаў спартыўнай школы лёгкай атлетыкі Мінска. Я прыйшоў да іх на сход. Паразмаўлялі. Працоўны калектыў у поўным складзе застаўся сярод нашых сяброў. Цяжкая размова адбылася з працоўным калектывам Тэатра юнага гледача... Старшыні, асабліва, як у нас, — невызваленыя, пад уладным прэсінгам трапілі ў вельмі няўдзячную сітуацыю, калі працаваць не даюць. Я ўбачыў на ўласныя вочы, як выглядае чалавек, загнаны ў вугал. Ён не можа быць прыгожым і абаяльным. Паспрабуйце ваўка загнаць у клетку, накіраваць на яго піку. Вядома, ён акрысіцца, поўсць паўстане, уздыбіцца... Ён стане вельмі агіднай жывёлай, якая абараняецца, як можа. Мабыць, тое самае адбываецца з людзьмі.

Я магу шмат гаварыць пра праблемы нашай галіны: і пра затрымкі заробкаў (асабліва на раёнах), і пра скарачэнні працоўных месцаў, і пра магчымае акцыянаванне... Але наш агульны сход задуманы не дзеля агульнага плача пра цяжкае жыццё, а дзеля пошуку канструктыўнага выйсця з сітуацыі.

Прафсаюз работнікаў культуры, як вядома, за апошнія паўтары гады неаднаразова спрабаваў ажыццявіць многія механізмы ўздзеяння на органы дзяржаўнай улады, каб змяніць у лепшы бок умовы жыцця працаўнікоў нашай сферы. Гэта і акцыя-канцэрт "Інтэлігенцыя Беларусі – гарантыя прагрэсу і дастойнага жыцця народа!", і калектыўныя звароты ў Адміністрацыю прэзідэнта Беларусі, а таксама і ў Савет Міністраў, Мінскія абл- і гарвыканкамы, гэта і калектыўныя сустрэчы ў міністэрствах. Аднак трэба канстатаваць, што тыя дзеянні, якія мелі шырокі рэзананс у сродках масавай інфармацыі, безумоўна, былі карыснымі, аднак не забяспечылі кардынальнага змянення існуючага становішча.

*— Вы думаеце, прафсаюзны сход кардынальна паўплывае на змены ў лепшы бок?*

— Наша галіна аб'ядноўвае спецыялістаў вельмі розных прафесій. Гэта і працоўныя паліграфічных прадпрыемстваў, тэатраў і музеяў, канцэртных устаноў, клубаў і бібліятэк, спартыўных і музычных школ... Розныя прафесіі – розныя праблемы. Каб іх вырашыць, нам трэба выступаць адным маналітам. Таму галоўны сэнс прафсаюзнай працы – вучыцца адчуваць локаць адзін аднаго, вучыцца супольна выступаць у сваю абарону.

Вельмі хочацца зрабіць гэты сход жывым. Таму не плануецца ніякіх прэзідыумаў, распісаных тэм і выступоўцаў. У сходзе прыме ўдзел любы жадаючы. Чакаем ініцыятыў з месцаў. Пасля таго як мы атрымаем падтрымку ад прафсаюзных сходаў, будзе створаны Аргкамітэт па падрыхтоўцы і правядзенню <u>Першага Мінскага гарадскога і абласнога прафсаюзнага схода "За гарантаваную працу і дастойны заробак!"</u>.

Хачу падкрэсліць, што наш сход адкрыты не толькі сябрам іншых прафсаюзных арганізацый, але і для ўсіх рухаў, палітычных партый, якія могуць дапамагчы нам знайсці выйсце са складанай сітуацыі. Мы павінны падаць свой сур'ёзны голас супраць таго гвалту, які зараз адбываецца з намі.

Вялікія спадзяванні на прэсу. Я ведаю, што напачатку было Слова, і сёння без слова не можа быць станоўчых вынікаў. Любое слова, якое будзе ісці ад сэрца, не ў страху, прадумана, услых, будзе мець велізарнае значэнне.

*— Стойце ў свабодзе і з Богам!*

**Размову вяла Ірына ДУБОВІК.**

***Ад рэдакцыі:*** *калі вас зацікавіла ініцыятыва Мінскай абласной арганізацыі прафсаюза работнікаў культуры, звяртайцеся да яе старшыні Уладзіміра Мамонькі па тэлефоне: (017) 226-09-40.*

# Выселяют под предлогом

**Так уж исторически сложилось, что в самом центре небольшого городка Ивацевичи, где проживает свыше 20 тысяч жителей, расположены два вокзала и рынок. Места хватает всем 200 предпринимателям, которые торгуют как продуктами питания, так и промышленными товарами.**

**Но с 1 апреля рынки опустели. Предприниматели объявили забастовку: таким образом они выразили свой протест против переселения на другую территорию. 11 апреля 118 предпринимателей создали забастовочный комитет. О причинах забастовки и о планах на будущее – в беседе нашего корреспондента с Аллой Курис, предпринимательницей из Ивацевичей и членом созданного 11 апреля забастовочного комитета.**

***— Насколько серьезна причина забастовки?***

— Если до 1 апреля мы работали по будням с 12.00 до 14.00 (время обеденного перерыва) и выходные дни, когда кроме жителей города к нам приезжают жители местных сел, то после переселения в лучшем случае торговлю придется вести только по субботам. Это значит, через месяц-другой подавляющее большинство предпринимателей откажется от своих лицензий. И что делать? Где найти работу? У нас стали закрываться цеха на деревообрабатывающей фабрике, людей сокращают. Работы нигде не найти. Идти воровать?

***— Неужели так плох новый рынок?***

— Этот рынок, куда нас хотят перевести, не новый. Он чисто сельскохозяйственный. А по субботам там продают поросят и т.п. живность. Проблема в том, что расположен этот рынок далеко от центра города, на развилке дорог. Чтобы попасть туда, нужно преодолевать оживленную автомобильную трассу и железную дорогу. Представьте, там возле рынка даже нет тротуаров! Власть пытается каким-то образом приспособить этот рынок к посещению покупателей. Но когда огородили территорию, поставили туалеты, это стало мешать местным жителям. Ну и немаловажная деталь:



на этом рынке невозможно разместиться всем продавцам. По существу, нас выгнали в никуда.

***– Зачем власть это делает?***

— Насколько нам известно, появились какие-то новые предприниматели из Минска и Бреста, которые готовы поставить вместо наших палаток стационарные павильоны и работать. А мы? Мы остаемся не у дел, без средств к существованию. Согласитесь, весьма обоснованная причина для протеста.

# Нас унизили...

На МАЗе работники участка №20 цеха мелких серий 9 апреля получили расчетные листы, глянули и ахнули! Каждый (а на участке работает 32 человека) недосчитался 52080 рублей по шифру удержания 275 *за материальный ущерб, нанесенный заводу.* Основанием явились распоряжения начальника цеха А.В. Багриевича №333, №360. Проанализировав распоряжение, юристы Свободного профсоюза сделали вывод: такого антизаконного документа они еще не встречали. Очевидно, начальник цеха понадеялся на правовую безграмотность работников: авось не разберутся. Не в первый раз...

Рабочие не промолчали и стали разбираться. Выяснилось, что к работникам участка незаконно применили положение договора о коллективной материальной ответственности. На самом деле такого договора с работниками участка не существует. Более того, работникам вменена ответственность за хищение материальных ценностей, хотя расследование по фактам хищения не проводилось.

О том, что хищения на заводе не знают границ, знают все. Воруют детали, запчасти, готовую продукцию. Даже при транспортировке изделий из одного цеха в другой уже не досчитываются их количества. Такое ощущение, что на заводе действуют банд-формирования, которые нападают на транспортные средства, склады, цеха. Но ведь кабину МАЗа или ось прицепа в руках через проходную не пронесешь! Можно только вывезти...

Рабочие от станка не согласились оплачивать из своего кармана последствия неразберихи на производстве и написали заявления в комиссию по трудовым спорам с требованием возвратить незаконно удержанные суммы, написали заявления в прокуратуру с просьбой разобраться в «черных» делах производства.

Как в этой истории повел себя недавно созданный директорский профсоюз? А никак. За целый месяц «желтый» профсоюз не соизволил проверить несправедливость наказания в отношении простых людей. Возможно, актив и премию бы получил, если б все прошло гладко. Но гладко у них было на бумаге

32 работника участка №20, 32 характера, 32 судьбы. Фактически этих людей обвинили без суда и следствия в воровстве.

Из разговора с работниками цеха:

– Вас крепко обидели?

– Нас не просто обидели, нас унизили.

Этого мы не будем терпеть. И спасибо за помощь Свободному профсоюзу и хорошим людям.

**Степан ПАВЛОВИЧ, наладчик станков с ЧПУ, МАЗ.**

## ПРОГРАММА ТВ — ПОНЕДЕЛЬНИК, 22 АПРЕЛЯ

**БТ**

06.00, 7.00, 8.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00, 0.35 Новости.
06.10, 7.10, 8.10 Доброе утро, Беларусь!
09.15, 17.00 «Люди в штатском». Сериал.
10.05 Арсенал. Программа об армии.
10.35 Телебарометр. Прогноз погоды.
11.00, 21.50 «Семейные узы». Сериал.
12.20 «На перекрёстках Европы». Национальный телефестиваль песни.
13.05 Волшебная шкатулка «Союзмультфильма». «Храбрый заяц».
13.20 В.Высоцкий и В.Конкин в худ.фильме «Место встречи изменить нельзя».1-я серия.
14.30 «Пой, душа!».
15.25 Детективный сериал «Жюли Леско».
18.25 Зона Икс.
18.35 А.Джигарханян в комедии «Говорящая обезьяна» (Россия).
20.00 Главный вопрос.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама. Информационный канал.
21.50 «Семейные узы». Сериал (Бразилия).
22.45 Стадион.
23.15 Футбол. Отборочный матч чемпионата мира среди женских команд. Беларусь - Венгрия. 2-й тайм.
00.05 Планета «АРТ».

**ОРТ**

08.00 Новости.
08.15 «Семейные узы». Сериал.
09.15 Документальный детектив. «Дело обреченных». 2001 год.
09.45 Поле чудес.
10.43 «Ералаш».
10.50 Библиомания.
11.00 Новости (с субтитрами).
15.00 Многосерийный фильм «Женская логика».
16.00 Большая стирка.
17.00 Вечерние новости.
17.25 «С легким паром!» В гостях у Михаила Евдокимова.
18.00 Жди меня.
19.00 «Русская рулетка».
20.00 Время.
20.35 Новая «Убойная сила». Фильм 1-й. «Роль второго плана».
21.40 Независимое расследование.
22.30 Ночное «Время».
23.00 «На футболе» с Виктором Гусевым.
23.30 Ночная смена.

**РТР**

08.00 Вести.
08.10 «Наука о сверхъестественном. Жизнь на других планетах». Док.сериал.
09.10 Мелодрама «Превратности женской судьбы» (Индия). 1999 г.
10.00 Вести.
10.20 Премьера. Мелодрама «Жены и дочери». Телесериал.
16.00 Вести.
16.20 «Город и пригород». Документальный фильм из цикла «Право на землю».
16.50 Наталья Гундарева, Анатолий Васильев, Евгений Стеблов и Игорь Верник в сериале «Любовь.ru».
17.50 «Комиссар Рекс». Телесериал (Австрия - Германия).
18.50 Спокойной ночи, малыши!
19.00 Вести.
19.35 Местное время. Вести - Москва.
19.55 Русский телевизионный роман. Юрий Беляев, Оксана Мысина, Николай Добрынин, Марина Могилевская, Андрей Панин и Сергей Чонишвили в многосерийном художественном фильме «Семейные тайны».
20.55 Вечерний сеанс. Александр Домогаров и Владимир Ильин в детективе «Марш Турецкого». Фильм 8-й. «Ошейники для волков». Часть 1-я.
22.00 Вести - Подробности.
22.20 Местное время. Вести - Москва.
22.30 Фильм Татьяны Алдошиной «Чечня: время собирать камни».
22.55 - 00.37 Последний сеанс. Владимир Носик, Александр Демьяненко и Александр Мартынов в детективе «Потерпевший». 1990 г.

**НТВ**

07.00 Сегодня.
07.10 Утро на НТВ.
07.30 Сегодня.
07.35 Утро на НТВ.
07.50 «Агент национальной безопасности». Сериал.
09.00 Сегодня.
09.25 «Намедни» с Леонидом Парфеновым.
10.40 Куклы.
11.00 Сегодня.
11.20 Наше кино. А.Панкратов-Черный и И.Скляр в комедии «Мы из джаза».
13.00 Сегодня.
13.20 «Принцип «Домино». Ток-шоу.
14.40 Криминал.
15.00 Сегодня.
15.30 Сериал «Неизвестная планета». «На охоте с папуасами».
16.35 Шоу Елены Степаненко.
17.35 Криминал.
18.00 «Сегодня» с Татьяной Митковой.
18.35 Детектив «Тайны следствия». 9-я серия.
19.40 «Бандитский Петербург». Сериал. 9-я серия.
21.00 «Сегодня» с Татьяной Митковой.
21.35 Герой дня.
22.10 «Скорая помощь». Сериал (США).
23.20 Сегодня.
23.40 - 00.45 Гордон.

**КУЛЬТУРА**

09.15 Магия кино.
09.40 «Тело и душа». Док.фильм.
10.40 «Охотничье ружьё». Мультфильм.
10.50 Тем временем.
11.30 Новости культуры.
11.50 Вместе с Фафалей.
12.05 «Тесные врата».
12.20 «Экология литературы».
13.15 «Уроки русского».
13.30 «Страсти по-итальянски». Телесериал (Италия, 1999). Режиссер А.Кан.
14.30 Alma Mater.
15.00 Новости культуры.
15.10 «Старая пластинка». Мультипликационный фильм.
15.25 «За семью печатями». Телевикторина для старшеклассников.
16.00 «Цитаты из жизни». Академик Юрий Израэль.
16.30 «Ренессанс». «Тело и душа». Док.фильм.
17.30 Новости культуры.
17.50 «Мой Эрмитаж». Авторская программа М.Пиотровского.
18.15 «Сценограмма». Анджей Вайда.
18.40 «Час музыки». Г.Берлиоз. «Гарольд в Италии».
19.30 «Театральная Россия». Ф.М.Достоевский. «Дядюшкин сон». Спектакль Театра им. Евг. Вахтангова.
22.30 Джем-5.
23.00 Новости культуры.
23.25 «Ночной полет». Ведущий А.Максимов.
23.53 - 23.58 Программа передач.

**СТВ**

06.00 «Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры». Телесериал.
06.30 Мультипликационный сериал: «Мир Бобби».
07.00 Информационная программа Натальи Гусаковой «168 часов Минска».
08.00 «Виртуальный мир».
08.15 Кино: Пьер Ришар в комедии «Я ничего не знаю, но все расскажу».
10.15 «1/52» Спортивное обозрение».
10.30 Новости мировой шоу-индустрии.
11.00 «Канал истории»: «Бенито Муссолини - кошмар Италии». Документальный фильм.
12.00 «24 часа».
12.15 «Добро пожаловаться».
12.20 «Арт-экспресс». Культурная жизнь столицы.
12.45 «Месть сладка». Телефильм.
13.45 «Леди Бомж». Телесериал.
15.00 «24 часа».
15.15 Мультипликационные сериалы: «Секретные материалы псов-шпионов», «Ферма чудища».
16.05 «Минск на перекрёстке столетий».
16.20 «Профессия, которую ты выбираешь».
16.30 «Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры». Телесериал.
16.55 «Чертенок». Теленовелла.
18.00 Спортивные новости.
18.15 «Пока горит свеча...».
18.45 «Премьер-парад «Столичный». Юмористическая программа.
18.50 «Тема дня».
19.00 «24 часа».
19.15 Детский экран. «Добрый вечер, малыш...».
19.30 Кино: Алисия Силверстоун в психологическом триллере «Вожделение».
21.40 «Леди Бомж». Телесериал.
22.45 Новости СНГ.
23.00 «24 часа».
23.15 «Арт-экспресс». Культурная жизнь столицы.
23.35 Футбольный курьер.
00.10 Ночной музыкальный канал.
00.30 «Виртуальный мир».
00.40 «М 1» Музыкальная программа.

**ТВЦ**

05.00 Информационно-развлекательный канал «Настроение».
08.00 Смотрите на канале.
08.05 «Однажды у нас вырастут крылья». Телесериал (Мексика).
09.00 «Постскриптум» с Алексеем Пушковым.
10.00 События. Время московское.
10.15 Телемагазин.
10.30 Двойной портрет.
11.00 Профилактика на канале «ТВЦ» с 11.00 до 17.00.
17.00 События. Время московское.
17.15 Мода non-stop.
18.00 «Без права на любовь». Телесериал (Мексика).
18.50 Пять минут деловой Москвы.
19.05 Александр Михайлов в боевике «Вербовщик».
21.00 События. Время московское.
21.45 Времечко.
22.15 Премьера ТВЦ. «Криминальны дуэт». Телесериал (Франция). 1-я серия.
23.10 25-й час. События. Время московское.
23.30 Петровка, 38.
23.50 Телебукмекер.
00.05 - 00.35 «Бадомма». Документальный фильм.

*Прадстаўнікі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народнай Грамады) падалі заяўку ў Мінгарвыканкам на правядзенне 1 мая дэманстрацыі з нагоды святкавання Дня працы. Прапанаваны маршрут: пл.Я. Коласа (збор а 10-й гадзіне) – праезджая частка пр-та Ф. Скарыны – пл. Незалежнасці.*

# Старшыня "пярвічкі" выйграў суд

**11 красавіка суд Цэнтральнага раёна г. Магілёва вынес рашэнне абавязаць адміністрацыю будаўнічага трэста № 12 аднавіць на працы старшыню пярвічнай арганізацыі Свабоднага прафсаюза Беларускага Аляксея Паўлоўскага.**

5 лютага прафсаюзны лідэр быў звольнены за прагул без уважлівай прычыны. Аляксей аспрэчыў рашэнне начальства ў судзе. Як патлумачыў Паўлоўскі, у той дзень яго сапраўды не было на працы, але перад тым аб сваёй адсутнасці ён паведаміў кіраўніцтву. Як шматдзетнаму бацьку (у Аляксея Паўлоўскага — пяцёра непаўнагадовых дзяцей), згодна з калектыўнай дамовай, адміністрацыя абавязана раз на тыдзень прадастаўляць яму адзін вольны дзень за свой кошт. Але начальнік будаўнічага ўпраўлення Віталь Субач заявіў, што падначалены не ўзгадніў дату бацькоўскага дня. Прараб жа Грамыка пацвердзіў у судзе, што муляр Паўлоўскі падаў яму заяву з просьбай вызваліць менавіта 5 лютага ад працы, і ён даў згоду.

Выслухаўшы і іншых сведкаў, суддзя Галіна Кужалева вынесла рашэнне: наймальнік павінен аднавіць Аляксея Паўлоўскага на працы, выплаціць яму сярэдні заробак за вымушаны прагул у памеры 332 тыс.руб. з індэксацыяй гэтай сумы на працэнт інфляцыі, а таксама кампенсаваць нанесеныя звальненнем маральныя страты, якія суддзя ацаніла ў 100 тыс. руб. З улікам жа яшчэ і судовых выдаткаў незаконнае звальненне рабочага абыдзецца адміністрацыі ААТ "Будтрэста-12" у агульнай суме каля 500 тыс. руб.

Цікава, што такое рашэнне цалкам падтрымала і пракурор Ірына Галанава, якая згодная з тым, што сапраўднай прычынай звальнення паслужылі перадузятыя адносіны да прафсаюзнага лідэра адміністрацыі.

"*Тыя ж факты парушэння заканадаўства і шматлікія хібы ў працы, за якія Аляксей неаднаразова крытыкаваў наймальніка і падаваў заявы і скаргі ў розныя дзяржаўныя органы, былі даказаныя ў судзе яго прадстаўнікамі: юрыстам СПБ Алесем Каралёвым і старшынёй Магілёўскай абласной рэгіянальнай арганізацыі СПБ Юрыем Новікавым*", — адзначылі ў інфармацыйна-прававым цэнтры МАРА СПБ.

Адзначым таксама, што Аляксею Паўлоўскаму за некалькі апошніх месяцаў вынеслі ажно чатыры спагнанні. І гэта пры тым, што за папярэднія 20 гадоў працы будаўнік не меў ніводнай заўвагі ці вымовы.

# Журналісты выйшлі на волю

**15 красавіка ў Гродне ў 11.10 выйшлі на волю журналісты Анджэй Пісальнік і Стас Пачобут. Разам з адзінаццаццю калегамі 5 красавіка яны былі затрыманыя міліцыянтамі за правядзенне пікета пратэсту супраць крымінальнага пераследу рэдактара забароненай газеты "Пагоня" Міколы Маркевіча і журналіста гэтага выдання Паўла Мажэйкі.**

Анджэю Пісальніку і Стасу Пачобуту суд вынес самыя жорсткія прысуды – па 10 сутак арышту, якія хлопцы адбывалі ў ізалятары часовага ўтрымання Ленінскага РАУС Гродна. Выпускалі журналістаў паасобку. Усе 10 дзён Стас трымаў галадоўку.



***На здымку www. pahonia. com:*** *Пасля выхаду з ізалятара. Анджэй Пісальнік з маці.*

# Службе "088" – беларускую мову!

**Незадаволеныя жыхары Мінска распачалі збор подпісаў за вяртанне службе дакладнага часу, што паведамляецца па тэлефоне, беларускай мовы.**

Нагадаем, што з нядаўняга часу згаданую службу перавялі на рускую мову. Шмат каму з мінчанаў гэта не спадабалася, і яны вырашылі звярнуцца да начальніка УП "Мінская гарадская сетка" Івана Жабко.

"*На працягу доўгага перыяду дакладны час паведамляўся на беларускай мове і гэта не выклікала пярэчанняў,* — адзначаецца ў лісце. – *Нагадваем вам, што беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай мовай нашай краіны, і нас абурае факт штучнага звужэння мовы карэннай нацыі. Мы настойліва просім вярнуць службу "088" на беларускую мову*".

Зварот будзе перададзены спадару Жабко разам з сабранымі подпісамі.

# За свабоду Бандажэўскага змагаюцца на Захадзе

**4 мая перад будынкам ААН у Жэневе павінна адбыцца акцыя пратэсту супраць зняволення ў Беларусі былога рэктара Гомельскага медінстытута Юрыя Бандажэўскага.**

Як вядома, знакаміты прафесар быў асуджаны летась на 8 гадоў па абвінавачанні ў хабарніцтве. Між тым, шмат хто з навукоўцаў, праваабаронцаў і ўплывовых людзей і ў Беларусі, і за мяжой перакананыя, што Бандажэўскі пацярпеў з-за сваёй прафесійнай дзейнасці. Юры Бандажэўскі даследаваў уздзеянне на здароўе чалавека малых дозаў радыяцыі, якія людзі атрымліваюць пасля Чарнобыля, у тым ліку і з прадуктамі харчавання. Паступовае назапашванне такіх дозаў, даводзіў апальны навуковец, вядзе да смяротнай небяспекі. Гэтыя высновы вельмі не даспадобы афіцыйным уладам, якія ўвесь час супакойваюць насельніцтва, што нічога жахлівага не адбываецца.



Акцыю пратэсту з патрабаваннем вызваліць Юрыя Бандажэўскага ладзяць арганізацыі, што дапамагаюць ахвярам Чарнобыля і змагаюцца з забруджваннем навакольнага асяроддзя, а таксама навукоўцы. Напярэдадні прадстаўнікі замежнай грамадскасці падрыхтавалі адпаведную петыцыю ў падтрымку беларускага вучонага. Яна будзе перададзеная ў Камісію па правах чалавека ААН.

# Супраць радыеактыўнага могільніка

**Як паведамілі ў прэс-службе маладзёвага руху "Зубр", брэсцкія сябры іх арганізацыі сабралі першую тысячу подпісаў супраць будаўніцтва могільніка для радыеактыўных адходаў на мяжы Маларыцкага і Брэсцкага раёнаў.**

Менавіта туды ўлады вырашылі перавезці заражаны грунт з Брэста, дзе на працягу не аднаго дзесятка гадоў перагружалася уранавая руда. Радыеактыўная зямля ўяўляе пагрозу для насельніцтва горада, бо не выключанае пападанне радыенуклідаў у грунтовыя воды і, адпаведна, у кватэры гараджан. Але і насельніцтва прылеглых вёсак, паблізу якіх збіраюцца захоўваць небяспечны груз, таксама не хоча рызыкаваць сваім здароўем і здароўем сваіх дзяцей. Як заўжды ў нас бывае, улады нават не палічылі неабходным параіцца з людзьмі і распачалі будаўніцтва небяспечнага аб'екта. Мясцовыя жыхары накіроўвалі лісты з пратэстамі, але ўсё безвынікова. Улады цвердзяць, што ўзводзімы аб'ект ніколькі не шкодны, але цана такім заявам усім вядомая.

Сабраныя подпісы будуць накіраваныя старшыні Брэсцкага аблвыканкама Даўгалёву, Лукашэнку і "Брэстводбуду", які займаецца будаўніцтвам могільніка. Акрамя гэтага, зубры маюць намер праводзіць і іншыя акцыі, каб не дапусціць стварэння небяспечнага саркафага.

ПАМЯТКА

## *Что делать, если вы потеряли студенческий (ученический) билет?*

Для его восстановления пишите заявление на имя директора (училища, техникума) или ректора (института, академии, университета), в котором излагается просьба о выдаче нового документа в связи с его утерей или кражей. В некоторых учебных заведениях взимается плата за выдачу нового студенческого (ученического) билета. Однако если билет украден и вы предоставите соответствующую справку из милиции, деньги за оформление с вас могут и не взять. Учтите, что подобную справку сотрудники милиции предоставляют, как правило, не сразу, а по истечении определенного времени. Если билет нужен срочно — проще оплатить его повторную выдачу.

Кстати, порядок получения новой зачетной книжки, взамен утраченной, такой же.

## *Что делать, если вы потеряли диплом?*

Для восстановления диплома изначально требуется дать объявление в одну из центральных газет о том, что конкретный диплом считается недействительным. В объявлении должна быть указана дата выдачи диплома, его порядковый номер, ваша фамилия и полное название учебного заведения, выдавшего диплом. Если не помните номер своего диплома, свяжитесь с учебным заведением, которое окончили, и выясните необходимую информацию. Квитанция за оплату публикации должна прилагаться к заявлению на имя руководителя вашего учебного заведения с просьбой о выдаче вам дубликата. За оказание данной услуги учебным заведением тоже, как правило, предусматривается получение определенной платы, от которой не освобождает даже наличие справки из милиции о краже упомянутого документа.

**Юрий ПЕРЕВОЗКОВ, выпускник юридического факультета БКИУ.**



## ПРОГРАММА ТВ — ВТОРНИК, 23 АПРЕЛЯ

**БТ**
06.00, 7.00, 8.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00, 0.00 Новости.
06.10, 7.10, 8.10 Доброе утро, Беларусь!
09.15, 17.00 «Люди в штатском». Сериал.
10.05 Стадион.
10.35, 15.45 «Приключения Шерли Холмс». Сериал для детей (Канада).
11.00, 21.50 «Семейные узы». Сериал.
12.20 Добрый день, Беларусь!
13.05 «Место встречи изменить нельзя». Худ.фильм (Одесская к/с). 2-я серия.
14.15 Док.сериал «Сокровища мировой культуры» (Германия).
14.30 «Телевизионный Дом кино».
15.20 «Маленькие хитрецы». Док.сериал.
16.10 «Пять чудес».
16.20 «5 х 5». Информационно-развлекательная программа для старшеклассников.
18.30 Зона Икс.
18.45 Ф.Клюзе и Ж-Л.Трентиньян в драме «Инстинкт ангела».
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама. Информационный канал.
22.45 Спорт-курьер.
22.55 О.Даль и М.Глузский в телевизионном детективе «Золотая мина».1-я серия.

**ОРТ**
08.00 Новости.
08.15 Жди меня (с сурдопереводом).
09.15 «С легким паром!».
09.45 «Русская рулетка».
10.45 «Ералаш».
10.50 Библиомания.
11.00 Новости (с субтитрами).
15.00 Новая «Убойная сила». Фильм 1-й. «Роль второго плана».
16.00 Большая стирка.
17.00 Вечерние новости.
17.25 Смехопанорама Евгения Петросяна.
18.00 «Семейные узы». Сериал.
19.00 «Слабое звено». Игровое шоу.
20.00 Время.
20.35 Новая «Убойная сила». Фильм 2-й. «Китайский квартал».
21.40 Лубянка. «Сержант Алекс».
22.30 Ночное «Время».
23.00 Цивилизация.
23.30 Ночная смена.

**РТР**
08.00 Вести.
08.10 «Наука о сверхъестественном. Загадки монументов». Док. сериал (Великобритания).
09.10 Мелодрама «Превратности женской судьбы» (Индия). 1999 г.
10.00 Вести.
10.20 «Жены и дочери». Телесериал.
16.00 Вести.
16.20 «Крестьянская доля». Документальный фильм из цикла «Право на землю». Часть 1-я.
16.50 Наталья Гундарева, Анатолий Васильев, Евгений Стеблов и Игорь Верник в сериале «Любовь.ru».
17.50 «Комиссар Рекс». Телесериал.
18.50 Спокойной ночи, малыши!
19.00 Вести.
19.35 Местное время. Вести - Москва.
19.55 Сериал «Семейные тайны».
20.55 Александр Домогаров и Владимир Ильин в детективе «Марш Турецкого». Фильм 8-й. «Ошейники для волков». Часть 2-я.
22.00 Вести - Подробности.
22.20 Местное время. Вести - Москва.
22.30 Дон «Дракон» Уилсон в боевике «Бегущая мишень» (США). 2000 г.
00.25 - 01.21 Горячая десятка.

**НТВ**
07.00 Сегодня.
07.10 Утро на НТВ.
07.30 Сегодня.
07.35 Утро на НТВ.
07.50 «Тайны следствия». Сериал
09.00 Сегодня.
09.25 «Я и моя собака». Дог-шоу.
10.20 Служба спасения.
11.00 Сегодня.
11.20 Наше кино. С.Никоненко, М.Козаков и Т.Спивак в фильме «Шестой».
13.00 Сегодня.
13.20 «Принцип «Домино». Ток-шоу.
14.40 Криминал.
15.00 Сегодня.
15.30 «Бандитский Петербург». Сериал.
16.45 Алчность.
17.35 Криминал.
18.00 «Сегодня» с Татьяной Митковой.
18.35 Детектив «Тайны следствия».
19.40 «Бандитский Петербург». Сериал.
21.00 «Сегодня» с Татьяной Митковой.
21.35 Герой дня.
22.10 «Скорая помощь». Сериал (США).
23.20 Сегодня.
23.40 - 01.40 Футбол. Лига чемпионов. 1/2 финала. «Барселона» - «Реал».

**КУЛЬТУРА**
09.15 Графоман.
09.40 «Ренессанс». «Чистое сияние прошлого». Док.фильм.
10.40 «Елка». Мультфильм.
10.50 «Сферы» с Иннокентием Ивановым.
11.30 Новости культуры.
11.50 Вместе с Фафалей.
12.05 «Общий дом». «Владимир Павлович Перлин». Док.фильм.
12.20 «Экология литературы». Анна Ахматова. Часть 2-я.
13.15 «Уроки русского». А.П.Чехов. «Моя жизнь». Читают Олег и Михаил Ефремовы.
13.30 «Страсти по-итальянски». Телесериал.
14.30 Ток-шоу «Наобум». Евгения Симонова.
15.10 «Неожиданные каникулы». Телесериал.
15.30 «Кот в сапогах», «Слоненок пошел учиться». Мультфильмы.
16.00 «Российский курьер». Задонск.
16.30 «Ренессанс». «Чистое сияние прошлого». Док.фильм.
17.30 Новости культуры.
17.50 «Дворцовые тайны». «Константин Павлович».
18.15 «Потерянные шедевры». «Сто тысяч сребреников». Часть 1-я.
18.45 «Партитуры не горят». Авторская программа А.Варгафтика.
19.30 «Темная комната». Худ.фильм.
21.15 Документальный экран.
21.55 Вновь пластинка поет.
22.20 «Больше, чем любовь». «Рихард Зорге и его русская жена».
23.00 Новости культуры.
23.25 «Ночной полет». Ведущий А.Максимов.
23.53 - 23.58 Программа передач.

**СТВ**
06.00 «Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры». Телесериал.
06.30 Мультипликационные сериалы: «Мир Бобби», «Ферма чудища».
07.30 «Профессия, которую ты выбираешь».
07.40 «М 1». Музыкальная программа.
07.50 «Виртуальный мир».
08.00 «Премьер-парад «Столичный». Юмористическая программа.
08.05 «Тема дня».
08.15 Кино: Алисия Силверстоун в психологическом триллере «Вожделение».
10.30 Спортивные новости.
10.45 Новости СНГ.
11.00 «Канал истории»: «ГРУ». Документальный фильм.
12.00 «24 часа».
12.15 «Очевидец».
12.45 «Граница. Таежный роман». Телесериал.
13.55 «Леди Бомж». Телесериал.
15.00 «24 часа».
15.15 Мультипликационные сериалы: «Секретные материалы псов-шпионов», «Ферма чудища».
16.05 «Минск на перекрёстке столетий».
16.20 «Добро пожаловаться».
16.30 «Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры». Телесериал.
16.55 «Чертенок». Теленовелла.
18.00 Спортивные новости.
18.15 «Здравствуйте, доктор!».
18.30 Новости СНГ.
18.45 «Премьер-парад «Столичный». Юмористическая программа.
18.50 «Тема дня».
19.00 «24 часа».
19.15 Детский экран. «Добрый вечер, малыш...».
19.30 Кино: Джейсон Патрик, Ирен Жакоб в триллере «Инкогнито».
21.55 «Леди Бомж». Телесериал.
23.00 «24 часа».
23.15 «Арт-экспресс». Культурная жизнь столицы.
23:35 «Виртуальный мир».
23.50 «Иллюзион»: Гэри Купер, У.С.Филдс, Чарлз Лоутон в комедии «Если бы у меня был миллион».
01.40 «М 1». Музыкальная программа.

**ТВЦ**
05.00 Информационно-развлекательный канал «Настроение».
07.50 Газетный дождь.
08.00 Смотрите на канале.
08.05 «Однажды у нас вырастут крылья». Телесериал (Мексика).
08.50 «Момент истины». Авторская программа А.Караулова.
09.40 Петровка, 38.
10.00 События. Время московское.
10.15 Телемагазин.
10.30 «Развязка петербургских тайн». Телесериал.
11.35 Телеканал «Дата».
12.30 Деловая Москва.
13.00 События. Время московское.
13.15 «Инспектор Кестер». Детективный сериал (Германия).
14.20 Как добиться успеха. Доктор Богданов.
14.30 Музыкальная программа «Полевая почта».
14.55 Путь к себе.
15.00 Регионы: прямая речь.
15.30 Я - мама.
15.55 Прогулки с Баталовым.
16.25 Прорыв.
17.00 События. Время московское.
17.15 Великая иллюзия.
18.00 «Без права на любовь». Телесериал.
18.50 Пять минут деловой Москвы.
19.05 Лицом к городу.
20.10 Детектив-шоу.
21.00 События. Время московское.
21.45 Времечко.
22.15 «Криминальны дуэт». Телесериал (Франция). 2-я серия.
23.10 25-й час. События. Время московское.
23.30 Петровка, 38.
23.50 Телебукмекер.
00.05 «Открытый проект». Молодежный канал.
01.00 - 01.25 «Синий троллейбус». Телефон доверия для полуночников.

